# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 24 13 чэрвеня 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

(2218) Цана 8 кап.


## І. СТО СУСТРЭЧ ЗА АКІЯНАМ



**Дзе толькі ні жывуць беларусы... І ў Аўстраліі, і ў Аргенціне, і за Ла-Маншам, і на Гудзоне. Хаця, як сцвярджаюць звышпільны Алесь Бажко і некаторыя звышпартыйныя артадоксы, за Ла-Маншам аніякіх беларусаў няма, адны толькі здраднікі. Тое ж і на Гудзоне... Але "Голас Радзімы" сцвярджае: усё-такі жывуць там шчырыя беларусы, працавітыя і таленавітыя, верныя традыцыям сваіх бацькоў.**

**Спадзеючыся, што нам на гэты раз не дадуць па галаве, як за публікацыю дзённіка Адама Мальдзіса "За Ла-Маншам, сярод беларусаў", мы прапануем чытачам нашай газеты серыю фотарэпартажаў журналіста Анатоля КЛЕШЧУКА пад агульнай назвай "СТО СУСТРЭЧ ЗА АКІЯНАМ". Яны пра амерыканскіх беларусаў, пра нашых суайчыннікаў, іх жыццё, пра сустрэчы з імі аўтара і яго ўражанні. Вось першая сустрэча. Знаёмцеся: Ганна БАРТУЛЬ. Народжаная ў Англіі, жыве ў Нью-Йорку. Бацькі паходзяць з Браслаўшчыны і Буда-Кашалёва. Ганна вывучылася на дантыста, мае свой лекарскі офіс. А яшчэ — удзельнічае ў вядомым ужо на Беларусі ансамблі "Васілёк".**

*Рэпартаж з Міжнароднага кангрэса беларусістаў*

# ПАЧНЁМ УСЕ РАЗАМ, ТАЛАКОЮ

Раніца 25 мая 1991 года. Без перабольшання — дзень, які застанецца назаўсёды ў памяці і, пэўна, нейкім чынам у гісторыі Беларусі. Кропка адліку новага часу, новых адносін, новага мыслення. Нарэшце збіраюцца разам тыя, для каго зямля гэта святая і родная, хто так ці інакш аказаўся звязаным з ёю лёсам, хто ў самых розных кутках планеты працуе на беларусіку, хто з'яўляецца яе шчырым сябрам.

Кажуць, запозненая крышку падзея. Маўляў, іншыя нацыі ўжо даўно прайшлі шлях кансалідацыі, збірання сіл. Напэўна, так яно і ёсць. Але ў кожнага свой шлях. Беларусі — асаблівы. Уся папярэдняя гісторыя народа — сведчанне таго. Пакручастыя сцяжынкі гісторыі неаднойчы заводзілі ў тупікі, з якіх, здавалася, няма выйсця. Выратоўвала адна толькі невараготная жыццяздольнасць. Сітуацыя бачыцца вобразна. Прыгожы і моцны чалавек, павярварскy збіты, абылганы па руках і нагах, з завязанымі вачыма, раптоўна ад болю страціў прытомнасць і ўпаў у летаргічны сон. Сон той доўгі і цяжкі. Але здаровы арганізм дзейнічае. Аднаўляюцца сілы, загойваюцца раны. Вось-вось ужо з'явіцца нармальнае дыханне. ...Беларускі феномен. З гэтым яшчэ разбяруцца вучоныя, дадуць разумныя тлумачэнні. Але ж відавочна, што збіты і скалечаны апрытомнеў, падаў голас.

Выбачай, чытач, за доўгую прэамбулу. Мусіць, ты чакаеш абяцанага рэпартажу, з якога можна даведацца, што і як адбывалася на кангрэсе.

...Гаманліва ў фае Дома літаратара. Ідзе рэгістрацыя ўдзельнікаў. Прывітанні, абдымкі, сувеніры... Аўтобусы падвозяць усё новых і новых гасцей. Прыемна бачыць знаёмыя твары. Юры Туронак, гісторык з Польшчы, як заўсёды, з ладным стосам кніг. У Мінску ён часты госць, мае з беларускімі навукоўцамі сталыя кантакты. Нядаўна напісаная ім кніжка "Нямецкая акупацыя на Беларусі" зацікавіла беларускіх выдаўцоў, перакладаецца, рыхтуецца да выдання ў Мінску. Аляксандр Баршчэўскі і Ян Чыквін з Беласточчыны, бадай што, і не госці, а свае тут. Апошнім часам у нас усталяваліся някепскія ўзаемасувязі з Беларускім грамадскакультурным таварыствам у Беластоку. Ездзім мы, ездзяць да нас. Як можам, дапамагаем сваім землякам з будаўніцтвам музея ў Гайнаўцы.

Прафесар Джым Дзінглі — старшыня Англа-беларускага таварыства — таксама стары знаёмы. Быў летась на святкаванні скарынінскага юбілею ў Полацку. Ён ужо некалькі дзён у Беларусі: чытаў лекцыі ў Гомельскім універсітэце імя Ф. Скарыны, у мінскім інстытуце замежных моў. Меў сустрэчы з навукоўцамі і беларускімі парламентарыямі. Зайшоў і да нас, у рэдакцыю, каб перадаць ахвяраванне на газету ад нашага земляка Сяргея Дзэйкі з Лондана. Прагаварылі мы гадзіны са дзве. Прафесар Дзінглі надзвычай абаяльны і камунікабельны чалавек. Ён разбівае ўсе нашыя традыцыйныя ўяўленні пра педантычных і стрыманых у паводзінах і пачуццях англічан.

Першы дзень кангрэса надзвычай напружаны. Па ідэі, ён павінен задаць тон усяму мерапрыемству. Менавіта таму, выступаючы перад прысутнымі з прывітальным словам, і Станіслаў Шушкевіч, і Васіль Быкаў, і Ніл Гілевіч, і Пётр Краўчанка коратка давалі характарыстыку сённяшняй сітуацыі ў Беларусі. А яна, як вядома, няпростая, асабліва калі прыгадаць нядаўнія забастоўкі рабочых у Мінску і Оршы. Васіль

(Заканчэнне на 6-й стар.).



Прэзідэнт Міжнароднага камітэта беларусістаў, кіраўнік Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны пісьменнік Адам МАЛЬДЗІС.

## ВЫРАТУЙЦЕ МАЮ ДАЧУШКУ!

У сваім горы звяртаюся да рэдакцыі і прашу надрукаваць зварот да беларусаў замежжа, да ўсіх чытачоў вашай газеты. Заклікаю дапамагчы мне ў выратаванні маёй адзінай шаснаццацігадовай дачушкі Наташы. На нашай "чыстай" Гродзеншчыне не напаткала цяжкая і вельмі агрэсіўная хвароба — рак шчытападобнай залозы, вынік чарнобыльскай навалы.

Пасля праходжання курсу прамянёвай і радыетэрапіі ў Мінску дзяўчынка знаходзіцца зараз у Маскве, дзе ў навукова-даследчым інстытуце нам паведамілі, што патрэбна другая аперацыя. Я знемагласа, абіваючы парогі і адчыняючы дзверы мноства афіцыйных кабінетаў. А вынік — валюты, неабходнай для лячэння за мяжой, няма. Я ўжо страціла веру ва ўсемагутнасць і дасведчанасць айчыннай медыцыны.

Шаноўнае спадарства! Дапамажыце мне ў справе выратавання дачушкі! Час не чакае, а хвароба робіць сваю справу. Патрэбна анкалагічная клініка за мяжой, якая згадзілася б прыняць маё дзіця на лячэнне і рэабілітацыю. Будзьце літасцівы, ахвяруйце на выратаванне Наташы валюту.

Нумар нашага рахунку для ахвяраванняў у валюце: 07025809 "В", МФО 805153 у Знешэканомбанку СССР ОПУ Беларускага рэспубліканскага банка ў Мінску. Нумар рублёвага рахунку: 29299 у ашчадным банку № 6416/07 г. Гродна.

**Галіна ГОРБАЧ, настаўніца беларускай мовы і літаратуры.**

**АД РЭДАКЦЫІ: спадзяёмся, што адчай і боль маці Наташы будуць пачуты ў грамадскіх і дзяржаўных арганізацыях, адгукнуцца ў сэрцах спагадлівых людзей як на Бацькаўшчыне, так і за мяжой.**

СКАРЫСТАЛІ РЭЦЭПТЫ СТАРАЖЫТНАЙ КІТАЙСКАЙ МЕДЫЦЫНЫ

# ПА МЕТАДУ ДОКТАРА САРЧУКА

Прынцыпы старажытнай кітайскай медыцыны ляжаць у аснове лячэння хворых па метаду доктара Сарчука ў навукова-практычным Цэнтры нетрадыцыйнай дыягностыкі і лячэння савецка-аўстрыйска - амерыканскага СП «Свенас», філіял якога дзейнічае ў Мінску на базе паліклінікі № 31. Яго загадчык Віктар НІКАЛАЕЎ расказвае:

— «Свенас» — гэта даволі высокая дакладнасць дыягностыкі (98 працэнтаў) пры значным скарачэнні часу абследавання. Прычым, заўважце, без аналізаў крыві і г. д. і апраменьвання за 15—20 мінут мы даследуем пацыента па ўсіх органах і сістэмах, вызначаем прычыну хваробы, месца і ступень паражэння.

«Свенас» — гэта арыгінальны метад безмедыкаментознага лячэння з дапамогай біялагічна актыўнай вадкасці, якая і з'яўляецца сутнасцю метаду Сарчука. Яму, дарэчы, прапаноўвалі пераехаць у ЗША, адкрыць там практыку, але ён адмовіўся. Цэнтр «Свенас» знаходзіцца ў Сімферопалі. У 48 гарадах краіны працуюць яго філіялы, некаторыя ўжо параўнаўча буйныя, як, напрыклад, у Маскве, Кіеве. Там у штаце да 25 чалавек. У Мінску пакуль тры медыкі практыкуюць метад Сарчука, у Брэсце — 2, Гомелі і Магілёве — па адным, — гаворыць доктар.

— Што ўяўляе з сябе гэтая гаючая вадкасць, з чаго вырабляецца?

— Вырабляецца яна са звычайнай дыстыляванай вады. Тут трэба сказаць, што любая вада мае сваю памяць, у тым ліку і дыстыляваная. У Цэнтры гэтую памяць ліквідоўваюць і шляхам пэўнай перапрацоўкі атрымліваюць якасна іншую вадкасць з зададзенымі лячэбнымі ўласцівасцямі. Яна нясе ў сабе ўсю інфармацыю аб хваробе ці хваробах пацыента, якую медыкі загадзя сабралі. На яе падставе складаецца рэцэпт біялагічна актыўнай вадкасці, што прызначаецца для лячэння менавіта данага пацыента, а не ўвогуле кожнага. Метад Сарчука разлічаны якраз на індывідуальны падыход.

Праўда, у апошні час у СССР сталі вядомымі і даступнымі столькі розных новых, нярэдка самых неверагодных спосабаў лячэння ўсіх хвароб, аб'явілася шмат экстрасенсаў, чараўнікоў і г. д. І чым больш іх становіцца, тым менш даверу выклікаюць яны ў людзей. Ці не з'яўляецца метад Сарчука ў нейкай ступені данінай модзе на нетрадыцыйную медыцыну? — пытаюся ў В. Нікалаева.

— Каб зняць зусім зразумелую падазронасць, скажу, што метад апрабіраваны ў навукова-даследчых установах краіны і за мяжой, абаронены аўтарскім правам, запатэнтаваны і рэкамендаваны Міністэрствам аховы здароўя для шырокага ўкаранення ў медыцынскую практыку.

Мы лечым гамеапатычнымі сродкамі, — працягвае доктар. — У Францыі, вядомай сваімі дасягненнямі ў розных галінах медыцыны, гамеапатычныя метады выкарыстоўваюць 75 працэнтаў урачоў. Увогуле ў свеце дзесяткі мільёнаў людзей паспяхова вылечваюцца з дапамогай гамеапатыі, якая дазваляе абыходзіцца без прыёму хворымі вялікіх доз медыкаментаў. Пагадзіцеся, ужо адно гэта з'яўляецца істотнай перавагай у параўнанні з традыцыйнымі метадамі лячэння. А ў нашай краіне, калі паўсюдна адчуваецца востры дэфіцыт нават найпрасцейшых медпрэпаратаў, гамеапатыя можа і павінна стаць сродкам выратавання людзей ад хвароб. Але трэба мець на ўвазе, што гамеапатыя эфектыўная толькі пры высокай дакладнасці дыягностыкі.

Як сказалі мінскія прыхільнікі метаду доктара Сарчука, у асноўным пазбегнуць памылак пры пастаноўцы дыягназу ўдаецца, дзякуючы выкарыстанню спосабаў і рэцэптаў лячэння старажытнай кітайскай медыцыны. Сёння агульнавядома, што на целе чалавека знаходзіцца больш 600 кропак, «сувязных» з усімі органамі чалавска. Доктар Нікалаеў выкарыстоўвае каля 240. Уздзеянне на гэтыя кропкі дазваляе ставіць дыягназ з высокай дакладнасцю.

У Мінску ўжо абследавана больш трох тысяч людзей. Метад доктара Сарчука дазваляе паставіць дыягназ задоўга да клінічнага праяўлення хваробы. І гэта яго бясспрэчная перавага найбольш уражвае наведвальнікаў. Іх таксама цікавяць карысныя, часам нечаканыя парады, якія яны атрымліваюць у Нікалаева і яго калег. Так, адной жанчыне сярэдняга ўзросту, занадта ўпрыгожанай залатымі вырабамі, парэкамендавалі не насіць на сабе столькі золата, яно не сумяшчаецца з яе арганізмам. І ведаеце, дапамагло. Жанчына стала сябе лепш адчуваць, перастала скардзіцца на галаўныя болі.

Перад пратэзаваннем, скажам, тазасцегнавога сустава медыкі параяць, як будзе сумяшчацца з арганізмам чалавека той матэрыял, з якога мяркуецца вырабіць даны пратэз. Бо асобныя матэрыялы ў некаторых людзей выклікаюць дрэнную рэакцыю. Гэта трэба абавязкова ўлічваць.

Ці возьмем модныя медыцынскія прэпараты. Людзі нярэдка хапаюцца за іх, бо яны дапамаглі нашаму сваяку, суседу, калегу. Але тое, што добра іншым, можа вам пашкодзіць. Урачы скажуць, наколькі той ці іншы прэпарат падыдзе для хворага.

Л. ТУГАРЫН.

# І. СТО СУСТРЭЧ ЗА АКІЯНАМ







Марыі, Надзеі, Галі... Там, у Амерыцы, сустрэнеш цэлае сузор'е жаночых беларускіх імёнаў. І ў шматмільённым Нью-Йорку, і ў маленькім Саўт-Рывэры, на ферме ў Пенсільваніі, і ў штаце Агаё... Але больш за ўсё там, дзе існуюць беларускія асяродкі, грамадскія цэнтры і храмы.

Зіны, Ніны, Кацярыны, Васіліны... Як васілёчкі на чужой глебе. І тыя, што ў пошуках волі і лепшай долі апынуліся за акіянам, і тыя, хто ўжо нарадзіўся там і ніколі не бачыў бацькоўскіх — сваіх вытокаў.

Імёны іхнія аж «пахнуць Беларуссю» — Алесі, Зоські, Ганны, Волькі... Ёсць у Амерыцы Евы, Паўліны, Дароты. Нават... Рагнеда — дачка Евы Яраховіч з Полацака.

Нашы зямлячкі такія ж, як і многія карэнныя амерыканкі — у меру эмансіпіраваныя, даволі вясёлыя, працавітыя. Яны — адвакаты, лекары, навукоўцы, мастакі, інжынеры. Яны — беспрацоўныя, хатнія гаспадыні, пенсіянеркі, каледжанкі... І ні ў чым не саступаюць у сваёй незалежнасці. Любяць аўтамабілі, робяць бізнес, займаюцца палітыкай. І прытым такія пяшчотныя, прываблівыя, клапатлівыя. Гарэзлівыя дзяўчаты, шчасліва-заклапочаныя матулі, светла-сумнаватыя бабулі. Я ўсё больш схіляюся да думкі, што гэта, дзякуючы ім, іхняй руплівасці, жыве на эміграцыі сярод мноства розных моў і наша беларуская. Не забыліся песні і абрады, не знікла з ужытку нацыянальная вопратка, і ў кожным доме шануецца льняны вышываны ручнічок.

Там да жанчын звяртаюцца словам «міс» альбо «спадарыня». Ці проста, незалежна ад узросту ...Юля, Аўгеня, Ірэна... Самай сталай, каго я сустрэў у гэтым падарожжы, была Іна КахаНоўская з-пад Кліўленда, ёй споўнілася восемдзесят пяць. Самая маленькая — дзевяцігадовая Тамара Дутко з Брыджыватэра — дачка мастачкі Ірэны Рагалевіч-Дутко (на левым здымку).

Жанчын-беларусак часцей за ўсё можна ўбачыць разам у час нядзельных царкоўных службаў альбо на святах і сустрэчах, як гэта было ў час XIX Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі. Аднойчы ў царкве святой Ефрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры я зрабіў некалькі здымкаў (за што атрымаў заўвагу ад царкоўнага служыцеля) простых, як мне здалося, зусім не амерыканізаваных кабет у паважных гадах і ў абліччы, такім падобным на светлыя абліччы нашых вясковых матуль (цікава, што думала гэтая жанчына у хустцы? — яна на здымку). Ці не пра гэтых так хораша сказаў паэт-эмігрант Міхась Кавыль:

Яны цьвятамі ўквечвалі шляхі,
Каханыя Алесі, Зосі, Галі,
Ад іх паглядаў пасінелі далі.
Пакутніцы за нечыя грахі...

Анатоль КЛЯШЧУК.




9

Так бацыла, папаўшая ў кроў, прыгнячае чалавека, прыхіляе яго галаву, яго залёты, робіць яго маларухлівым, адымае ад яго радасьць, шчасьце, сьмех і сонца, пакуль нарэшце не запануе ўсей істотай і не прывядзе да аканчальнай загубы...

Так папала бацыла ў сэрца і мозг Тугоўскага, і так яна апанавала ім, так яна прымусіла яго схіліць да зямлі галаву і цягнуцца бязвольна дахаты... Бацыла самагубства, папаўшая ў мозг, ня так хутка пакідае чалавека. Яна папала ў мозг Тугоўскага і грызла, грызла яго ўсю дарогу...

А дождж ліў... Дождж выбіваў аднатонную музыку барабана...

II

Поўны, у залатых акулярах, у шапцы, абшытай залацістымі галунамі, швэйцар адчыніў Тугоўскаму зялезную браму саду. Не сьпяшаючыся, Тугоўскі пайшоў па шырокай алеі, угледаючыся ў велізарныя ёлкі і сосны, росшыя навакол дарогі. Лісты дрэў ужо ападалі. Клумбы кветак былі мёртвымі. Кусты дзіўных чырвоных рож, над якімі ўлетку сьпяваў салавей, стаялі голымі й мертвенна жоўтымі. На ўсім велізарным садзе быў адбітак набліжаючайся сьмерці. Адны альтаны, абвітыя плюшчом і дзікім вінаградам, стаялі пышна, як сьведкі б'ючагася яшчэ ў садзе жыцьця. У канцы алеі стаяў жоўты двухпавярховы будынак, з пад'ездам, з двумя велізарнымі ліхтарамі пры ўходзе, з высахшым фантанам перад ім. Можна было б падумаць, што гэты пышны сад з швэйцарам і гэты будынак з ліхтарамі служаць рэзыдэнцыяй якога-небудзь пана ці якіх-небудзь паноў, стаячых на вяршыне грамадскай драбіны. А між

10

тым, гэта быў інтэрнат для тых, што былі выкінуты за борт жыцьця пасьля вялікага рэвалюцыйнага землятрусу, для тых, якія згубілі "ўсё" і сталі "нічым" — людскім пылам, гноем, заплямованыя ганебным словам "эмігрант". Тугоўскі падняўся па шырокіх мрамаравых сходах. У вялікім даўгім карыдоры яму сталі пападацца жыхары інтэрнату, апранутыя па-хатняму: у адных кашулях і нейкіх апорках, абутыя на басанож, у парваных мундырах расейскай і аўстрыйскай армій. Сьмех, шум данасіліся адусюль з адчыненых дзьвярэй пакояў. Ён увайшоў у свой пакой. Знаёмае жыцьцё агарнула яго, падхапіла яго, як хвалі трэску, і панясло ў нейкі вір, з якога ён быў бяссільны выбрацца. Ён стаў дзівіцца той вясёласьці, якая панавала навакол. Адкуль яна бралася ў людзей... Здавалася, заўтра яны павінны былі быць выкінутымі на вуліцу без кавалка хлеба, заўтра нясло ім страшэнную назву "бадзягі", — а між тым сяньня яны ні аб чым ня думалі. Яны заняліся мастацтвам, яны зрабілі нешта ў пакоі накшталт балету. Пасьцелі, цягнуўшыся радамі побач сьценак, былі прыстаўлены адна да аднэй, і такім чынам пасярэдзіне пакою стварыўся прастор, на якім можна было паказываць свой талент. Музыка была захопліваючая. Яна ўдарыла па балючаму сэрцу Тугоўскага, як смык па нацягнутых струнах, — і падняла яго над зямлёй, над цяжкай штодзеннасьцяй. Здавалася, наўмысьля для яго гукі нясьліся шалёным скокам, адзін за адным, нясьліся задыхаючыся, у нейкім вакхічным, п'яным рытме.

Беларускі студэнт-мэдык Загорскі стараўся як мага хутчэй вадзіць па сваей чароўнай скрыпцы. Галічанін Серада ў шэрым аўстрыйскім мундыру таленавіта ўторыў яму на гітары. Але галоўную

11

містэрыю тварыў галічанін Садоўскі, азартны карцёжнік, катораму трэба было б на сьпіну павесіць "бубновы туз" арыштанта. Хто мог падумаць, што нага гэтага бадзягі ведае законы рытма, што яна паслушна, як зьмяя, будзе зьгібацца пад музыку на чароўнае дзіўленьне гледачоў.

"Ні даць, ні ўзяць "Мёртвы дом" Дастаеўскага", — падумаў Тугоўскі. І раптам ён пачуў, што сьлёзы падступаюць пад яго горла, што вясёлая музыка настраівае яго на сэнтымэнтальна-сьлязьлівы тон, — і цэлы рой сэнтэнцый апанавалі ім.

"Вось, — думаў ён, — паніжаныя, адкінутыя ўсімі людзі, а між тым колькі талентаў крыецца ў іх істотах. Яны "людзі дна", але наколькі яны стаяць вышэй тых дабрародных душ, якія лічацца красой і гордасьцю грамадзянства. Грош ім цана, гэтым адкормышам-мяшчанам, на падобе старшыні "Беларускай Грамады". Лепш быць "на дне" — бадзягай, але мець у сэрцы агонь, мець яшчэ сьвяты парыў узьлётаў..."

І раптам ён пачуў, што ён нават ніжэй за гэтых бадзяг, што ў яго сэрцы патух агонь "узьлётаў", — і ён ня вытрымаў вясёлай дзікай пляскі, выскачыў у карыдор і заплакаў. У гэты час па карыдоры праходзіў беларускі студэнт Кірыла Бурачэўскі. У даўгаполым пальце, заўсёды з капелюшом, адкінутым на патыліцу, з насьмешкай на сваім хітрым твары, — паходзіў на дзячка невялічкай захалуснай царквы. За гэта сябры празвалі яго насьмешліва "айцец" Кірыла. "Айцец" Кірыла пачуў плач і спыніўся каля Тугоўскага.

— Эге, брат... Знача і ты гора бачыў, калі плачаш ад песьні вясёлай...

— Так, "айцец" Кірыла, плачу — сьмяяцца ўжэ ня маю сілы, — сказаў Тугоўскі і, засароміўшыся,

12

што яго бачылі, выскачыў і пабег з карыдора вон. Выскачыў ён у сад і пачаў хадзіць па алеях і думаць аб сваей тэорыі. "Тэорыя... — думаў Тугоўскі, бродзячы сярод велізарных тапалёў. — Яна правідлова ўсё ж ткі... Які вывад? Памерць? Але сяньня сябры інтэрнату крычалі аб жыцьці, жыцьці бяз сьлёз, без разважаньняў, жыцьці бяздумным, жыцьці цыганскім, жыцьці на сьметніку, на якім вырастаюць таксама кветкі і часам праглядае сонца. І няўжо ў яго хопіць сілы, каб сьмяяцца, калі хочацца плакаць, скакаць, калі няма дарогі, сьпяваць, калі ідзеш на згубу... Не... Жыць... Жыць...", — казаў ён сам сабе.

Было ўжо каля поўдня, калі ён адчыніў вочы. Адзін студэнт Загорскі стаяў каля вакна і прыводзіў у парадак свой туалет. Не было больш нікога з учарайшых артыстаў. Хто пайшоў на лекцыі ў вышэйшую школу, хто ў сталоўку, а хто ў Студэнцкі дом[1]. Пасьцелі былі акуратна засланы, як у казармах жаўнерамі; толькі на аднэй ляжала нейкая бясформенная куча коўдраў. Гледзячы на яе, ніколі ня можна было падумаць, што пад гэтакай кучай спаў чалавек. Загорскі стаяў перад люстэркам і завязываў свой модны і дарагі гальстук. Ён належаў да тых людзей, якія думаюць больш аб фраках, смокінгах, вясёлых балах, чым аб якіх-небудзь ідэях. Мэдыцына яго цікавіла пастольку, пакольку яна давала яму магчымасьць жыць у залатой Празе, дыхаць шумным паветрам вялікага места. Як музыкант, ён прыймаў удзел у розных квартэтах і часта йграў па розных карчомках. Капрызная фартуна какетліва ўсьміхалася яму й пасылала прыемнасьці жыцьця. Ён прывык глядзець на жыцьцё, як на жанчыну з рэстарану, якая за грошы рассыпае ласкі [...]

13

Тугоўскі доўга глядзеў на яго працу над сваім туалетам, нарэшце ня вытрываў і прамовіў:

— Але вы тры гадзіны праводзіце перад люстэркам, як Вэнера, зьбіраючыся на баль.

— Слухайце, — абярнуўся да яго зараз жа Загорскі. — Не вынасіце на паказ старых рэчэй, мне здаецца, яны крадзеныя. Мне здаецца, вы адкульсьці ўкралі гэтыя словы.

Загорскі ніколі ня лез за словам у кішэню. Тугоўскі не знайшоў адказ на гэта. Ён прамаўчаў; падумаў, што Загорскі магчыма праў.

— Ну, ня ўсё роўна, украў я што-небудзь ці не? Гэта ўсё глупства. А вось давайце пагутарым сур'ёзна, грамадзянін Загорскі. Вы вось мэдык. Ня раз і ня два пападалі ў трупны пакой, каб застацца адзін на адзін з трупам. Скажыце, ці не задумываліся вы тады над пытаньнямі жыцьця і ці не рабілася вам тады крыху жутка ў гэтым суседстве ашчэраўшыхся чарапоў?

— Не, я нічога гэтага не перажываў. Я стараўся хутчэй працаваць анатамічным ножыкам. Асістэнт па анатоміі пахваліў мяне й сказаў, што з мяне выйдзе добры дохтар. Трэба вам наогул зазначыць, што мэдыкі менш усяго філязафуюць. Яны глядзяць, што сьмерць — гэта проста загана якой-небудзь матэрыі, сьмерць якіх-нубудзь матэр'яльных клетак, якія мы можам пабачыць пад мікраскопам сваімі ўласнымі вачыма, і ўсё.

— Знача, па-вашаму нічога няма **там?**

— Гэта мы прапануем вырашаць гадалкам, папам і ксяндзам, старыкам у футлярах забабонаў.

— Знача, калі так: скончыць жыцьцё самагубствам — простая штука. Раз там, на небе, нічога няма, дык узяў узьвёў курок — і ўсё...

— Самагубства — гэта іншая рэч... Па-мойму,

14

самагубства часьцей усяго бывае самаглупствам.

— Як так? — прыўстаў Тугоўскі на пасьцелі. — А калі ў яго самагубства ідэйнае. Калі ён, паглядзеўшы жыцьцё ад пачатку да канца, пабачыў нейкую заканамернасьць ува ўсім, пабачыў, што ўсё жыцьцё не выпадкова, што ад самага маленства да старасьці чалавека вядзе нейкая сіла акрэсьленымі дарогамі — аднаго да шчасьця, а другога да няшчасьця, калі нарэшце, сабраўшы ўсе жыцьцёвыя факты, ён стварае тэорыю шчасьця і няшчасьця ў жыцці і бачыць, што тэорыя няшчасьця падцьвярджаецца, тады скажыце — нашто яму жыць?

— Ну, ведаеце што... — не даў яму скончыць Загорскі. — Выбачайце, я ня маю часу з вамі больш гутарыць. Але я вам раджу с вашай тэорыяй зьвярнуцца ў Празе ў Інстытут псыхічных досьледаў.

Ён насьмешліва і горда, напарфумлены й папудраны, прыгожы, як малады бог, выйшаў з пакою, не даўшы Тугоўскаму апомніцца ад выстралу апошніх слоў: "Інстытут псыхічных досьледаў".

"Знача, ён зрабіў з мяне вар'ята", — падумаў Тугоўскі і, абяссілены, паваліўся на пасьцель. Аказываецца, прадстаўнік "залатой моладзі", думаўшай толькі аб смокінгах і рэстаранах, аказаўся не такім пустым, як спачатку падалося Тугоўскаму. На славеснай дуэлі з ім цяжка было справіцца. Ды й ці толькі на аднэй славеснай. Можа быць і шмат магло быць дуэляў, з якіх

**Працяг.**
**Пачатак у № 23.**

15

Тугоўскі ня выйшаў бы пераможцам. Ён ляжаў на пасьцелі разьбіты і абражаны. "Інстытут псыхічных досьледаў",.. — няслося ў яго галаве.

"Вар'ят, вар'ят... А можа быць і запраўды ў мяне ёсць нешта ненармальнае. І гэта ненармальнае прабіваецца ў маей тэорыі". Ён пачуў, што твар яго пачынае паліцца. Яму здалося: цяжкі камень зваліўся на яго й яму цяжка стала дыхаць. Цяжка думаць, цяжка гутарыць.

У гэты момант заварушылася куча коўдраў і з-пад яе паказалася сьмешная, высокая, злахмачаная, уся ў пуху, белакурая галава чалавека. Гэты чалавек ляжаў цэлымі днямі на пасьцелі; ніхто ня чуў ад яго слова. Ніхто ня ведаў, чым займаўся, як жыў, адкуль атрымліваў грошы на жыцьцё. Калі насьмешкі сяброў па пакою пачыналі яго вывадзіць з цярпеньня, ён казаў: "Я не падобны да вас. Я — астральны чалавек". "Астральны чалавек" займаўся рознымі астральнымі навукамі: астралёгіяй, хірамантыяй, чытаў пра Індыю й жыцьцё розных іогаў і цэлымі днямі вывучаў асновы рэлігіі Будды. Здавалася, пад уплывам Будды ён запраўды мала зьвязываў сябе з жыцьцём, ня ведаючы ні гора, ні радасьці, усё прыймаючы спакойна, усё філязофскі благаслаўляючы. Здавалася, цьвёрдая інтэрнацкая ложа з шэрай жосткай коўдрай пад уплывам усходняга бога стала для яго самым прыемным мейсцам — "нірванай", у абоймах якой ён адчуваў райскую насалоду.

Злыя языкі казалі, што ў яго быў туберкулёз і ён згубіў ужо магчымасьць рухацца, але ён тлумачыў сваю прывязанасьць да ложка "ідэёвымі", "астральнымі" матывамі. Пачуўшы размову Тугоўскага з Загорскім, ён выйшаў з звычайнай раўнавагі, высунуў галаву з-пад кучы

16

коўдраў, якімі ён закутываў сябе, каб гэтакім спосабам заглушыць гукі грэшнага сьвету, нёсшыяся ў яго вушы. Ён акінуў падазронымі сьветлымі сваімі вачыма з-пад белакурых бровяў пакой і, пабачыўшы, што нікога ўжо няма, сьмела сеў на пасьцелі.

— Паслухайце, — пачаў ён размову за ўвесь свой час жыцьця ў інтэрнаце, першы раз зьвяртаючыся да Тугоўскага. — Паслухайце, я чуў вашыя спрэчкі. Вас абразіў Загорскі. Добра, што яшчэ ня ў прысутнасьці сяброў пакоя, і вы, я бачу, вельмі блізка прынялі гэтую абразу да свайго сэрца. Кіньце... Паслухайце астральнага чалавека. Паслухайце, што скажу вам я — вучань вялікага прарока. Я — маўчальнік. Запісывайцеся ў наш гурток чэскіх спірытыстаў, куды ўваходзяць чэскія, украінскія студэнты ўсіх факультэтаў і іншыя паважаныя грамадзяне. Яшчэ не было ні аднаго беларускага студэнта. Запісывайцеся! Бо вы гэніяльны чалавек, грамадзянін Тугоўскі. Так, ня смейцеся, — запраўды гэніяльны. Хоць Загорскі адаслаў вас у "Інстытут псыхічных досьледаў". Можа быць, часткай ён быў правы, бо гэніяльнасьць і вар'яцтва — вельмі родныя сёстры і для шмат звычайных людзей гэній — ня больш, як вар'ят. Вы гэній таму, што інтуітыўна, гэта ёсьць самі, без дапамогі падручнікаў, сваім дзіўным сэрцам і студзёным за ўсім паглядаючым розумам знайшлі вялікі закон жыцьця: заканамернасьць.

[1] Студэнцкі дом у Празе знаходзіўся у Альбяртове на вуліцы "На Слупі".

# APPEAL

## TO KINSMEN, SOCIAL AND CHARITY ORGANIZATIONS IN EUROPEAN COUNTRIES

The "Motherland" Association of the Byelorussians of the World is the initiator (along with other social organizations of Byelorussia) of holding an all-Eropean action "The Chernobyl March". Its aim is to draw people's attention to the most painful date in the post-war history of the continent — April 26, 1986. It was on this day that Chernobyl nuclear reactor exploded with a mortal fire. To our people the five years have been steps in an ascent of Calvary, an ever-growing understanding of the grave disaster in which we found ourselves through no fault of our own. We proved to be hostages of a system which will neither set you free nor help you...

There is no nation or maybe even family in Europe which is not aware of the disastrous aftermath of Chernobyl. But one thing is to hear of it on the radio, read about it in the newspaper, watch it on television and quite a different thing — to be directly confronted with the disaster, to feel constantly its breath behind you and, moreover, to see your own child fading away.

70% of the territory of the republic is covered with Chernobyl fall-out; radiation, especially through water and food, is spreading over the whole of Byelorussia, and is invisibly approaching each one of us. The problem of the survival of the people, of preservation of the genetic fund of the nation is getting painfully acute. And if one takes into account that in Byelorussia the radioactive Chernobyl got mixed with the spiritual Chernobyl, the atmosphere of which over decades has been carefully created by the antinational policies of the Central Government and the Republican administration which has been servilely subordinated to it, the tragedy of the existence of the Byelorussian people become clear: almost total ousting of the mother tongue from official use, the decline of culture, religion, morality, the pollution of air, rivers and lakes, the destruction of woods, of the living on Earth, etc.

We see the main reason for our troubles in the loss of our own statehood, helplessness in front of newcomers, lack of rights of the people and, as a result, loss of feeling of being Masters in their own land and of responsibility for their own spiritual and material heritage.

But Byelorussia's troubles are not only own troubles and pain. What happened to us might have happened in Eastern Europe and, under certain circumstances, in Western Europe. It is a fact that today each nation is defending its individuality, is trying to resist the ruinous results of scientific and technological progress and to protect the purity of nature and the inviolability of all living things. We, Byelorussians, at the cost of our own survival are sending a signal of trouble, are becoming a sort of sign of disaster, are warning humanity of danger. And our experiance, unique as it is, at the same time has a universal meaning, worthwhile learning and assimilating.

"The Chernobyl March" is a tragic march; it is a march of suffering. In has acquired exactly this colouring owing to the marches of the Byelorussian Popular Front who were the first to speak aloud of what had been done to the people and who resolutely stood up against those who had been trying to conceal the size and effects of the catastrophe and who had condemned people to suffer from new diseases and illnesses.

But our march is not a march of the dispossessed and the humiliated who have nothing left to do but weep and curse a terrible lot. People who have more than once been beaten and twisted in one or another direction, have not been defeated, have not been broken and have not disappeared and who have not turned into a tribe without roots must survive and should not relax and abase themselves! We firmly believe and are convinced that with the Lord's Grace, with the help of other nations we shall overcome and that again, as at the time of the Grand Principality of Lithuania, we shall occupy a worthy place in the European home among civilized countries.

It is understandable that it is impossible to cover the whole continent with this mission during one trip. It will be carried out in several stages, with regular visits to two or three countries. But before starting on this difficult trip it is necessary to do some preparatory work. We ought to get concrete information from public organizations and municipal administrations concerning the desirable date of our arrival and what they expect from us. The main thing is that our visit should not be a formal event of little notice but that it should arouse people's feelings, and help people to understand what has be set long-suffering Byelorussia.

We would like to begin our march in neighbouring Poland with which Byelorussia is united by deep historical ties. We have had common struggles against foreign invadors, the joy of victories, the bitterness of losses, common troubles, the bitterness of common disasters. The most tragic and painful one for us, the Chernobyl disaster, has covered Poland with its black wing, especially the Bialy Stok area where our Byelorussian brothers live in an entity.

From the Republic of Poland our route will take us to Germany with which Byelorussia has age-long but not always serene relations. But you cannot change the past, nor rewrite it anew. You can only try to understand it objectevely, learn its lessons and at the bottom, of your heart feel responsible for what was done by your kinsmen and consequently, feel the irresistible need to deliver yourself from sufferings and morally to purify yourself — and this is exactly the guarantee that a man of one nation will see in a representative of another nation not an enemy but a man who is close to you, who is like you...

It is common knowledge that a lot is being done in Germany for the nation's moral purification within the framework of the "Deliverance" action. The contribution of the German people to the overcoming of the disastrous aftermath of Chernobyl is quite essential, if not the greatest of all. There are a lot of examples, but here we shall mention only the name of the artist Barhat who is gripped by the idea of building villages in Byelorussia for the migrants with the help of foreign firms. Projects of new settlements will include pictures made by children from various countries. An exhibition of their works which is being shown in Minsk will follow the Chernobyl March along with Mr. Barhat.

It is planned to travel in two buses in September, 1991. During stops in cities and possibly in villages there will be short meetings, itinerant exhibitions, concerts of singers and musicians, showings of documentary films.

We appeal to the Byelorussians, to all those whose ancestors once lived here in Byelorussia and then moved to the West and also to all our Slav brothers, to all interested public organizations and charity funds in Western countries to promote the carrying out of the Chernobyl March, to create a friendly moral and informative atmosphere around it.

We are looking forward to you giving your consent to our meeting in your country.

With sincere gratitude to all peoply of goodwill — The "Motherland" Association of the Byelorussians of the World.

Our address is:
220048 Byelorussia, Minsk, ul. Sukhaya, 4
tel: (0172) 23-66-21 fax (0172) 23-67-26
A/c N 700308 code 812 in commercial bank
"Belarus", MFO 400417



*Lake Naroch is the biggest lake in Byelorussia. It is the gem of Byelorussia's water resources. Located on its picturesque shores are sanatoria, rest homes, pioneer camps. You can meet here both Soviet and foreign tourists.*
*In the picture: the marvellous scenery of lake Naroch draws your attention whenever you come here.*

*Photo of S. KRICKOGO.*

**Dear friends,**

**We ask you to help our daugther, Natalya GORBACH (16 years old), who's life can still be saved! If you have any possibility to support treating our daugther for an follicular thyroid cancer of lower degree of differentiation (in consequence of Chernobyl accident), we ask you to transfer any sum to Vnesheconombank of the USSR, Byelorussian branch, Minsk personal account N 072555809 "B" MFO 8055153.**

**Yours faithfully, parents of Natalya GORBACH.**

## Who Lives in Byelorussia

According to the returns of the all-Union population census the population of the Republic totalled 10,200,000. The proportion of urban dwellers has increased to 65 per cent. Meanwhile the rural population has diminished. The main cause is migration to the towns and cities.

A fifth of the entire population are pensionable age. Men make up 47 per cent of the entire population and women — 53 per cent. The number of families has increased, but the family size has diminished. Today 8,935,000 people live in families, that is 88 per cent of the population.

The indigenous ethnic nationality is Byelorussian. The Republic is also inhabited by 1,342,000 Russians, 418,000 Poles, 291,000 Ukrainians and 112,000 Jews. Almost 78 per cent of the population regard the language of their nationality to be their native tongue (over 80 per cent of all Byelorussians) and over 22 per cent of the population consider the languages of other peoples to be their native tongue.

## The Marc Chagall Museum to Open

The Executive Committee of the Vitebsk City Soviet of People's Deputies has decided to found the Marc Chagall Museum. A special bankaccount has been opened to which individual citizens, enterprises, institutions, cooperatives and other organisations can send their donations. Contributions in foreign currency are accepted by the Foreign Economic Bank at the following address: The Cultural Department of the Vitebsk City Executive Committee (for the Marc Chagall Museum ), Minsk, Byelorussian SSR.

**Editor of the English page E. MILOVANOVA.**

# ПАЧНЁМ УСЕ РАЗАМ, ТАЛАКОЮ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Быкаў, напрыклад, лічыць, што перспектыва развіцця нацыі, улічваючы нядаўнюю трагедыю Чарнобыля, даволі змрочная. Ніл Гілевіч упэўнены, што Беларусь уступае цяпер у новую паласу гістарычнага жыцця, а таму трэба не наракаць на свой горкі лёс, а дзейнічаць самааддана і самаахвярна, не шкадуючы сіл.

Талакой назваў гэты кангрэс акадэмік Платонаў, тлумачачы прысутным стары беларускі звычай працаваць разам, талакой.

Яшчэ анансіруючы кангрэс у газеце, я пісала, што работа яго мяркуецца па секцыях: "Гісторыя і культура", "Мовазнаўства", "Літаратура, мастацкі пераклад і фальклор". У праграме кангрэса былі пазначаны ўсе выступленні, даклады і паведамленні ўдзельнікаў. З іх збіралася абавязкова паслухаць 20 ці 25 найбольш цікавых для мяне як для журналіста. Напрыклад, такія, як "Этнічныя граніцы беларусаў на старых і сучасных картах", "Стан і перспектывы беларусістыкі ў Швейцарыі", "Беларускае нацыянальнае адраджэнне: гісторыка-тыпалагічны аналіз паняцця". Кожная секцыя праходзіла асобна. Паспець хацелася ўсюды. Такім чынам, давялося вандраваць па Дому літаратара з адной секцыі на другую. Як і іншым калегам-журналістам, якія таксама выконвалі тут свой прафесійны абавязак. Янка Мойсік, напрыклад, вядучы беларускай праграмы радыё Ватыкана, упершыню прыехаў у Беларусь. Зразумела, што нам ёсць пра што з ім пагутарыць. Янка родам з Беласточчыны. На радыёстанцыі працуе ўжо некалькі гадоў. "Беручы пад увагу сённяшняе становішча царквы ў Беларусі, у прыватнасці, недахоп святароў, — кажа Янка, — перадачы нашы набываюць асаблівае значэнне. Для многіх гэта адзіны спосаб атрымаць нейкія рэлігійныя веды. Таму большую частку сваёй праграмы прысвячаем перадачам рэлігійнага зместу: гутаркі на рэлігійныя і маральныя тэмы, літургічныя тэксты і г. д." Праўда, акрамя гэтага робяцца праграмы на радыёстанцыі і на культурныя тэмы, асаблівая ўвага звяртаецца на хрысціянскія карані беларускай культуры, адзначаюцца юбілеі беларускіх дзеячаў, гістарычныя падзеі.

Ад Янкі Мойсіка я даведалася, што беларуская праграма радыё Ватыкана мае і свае праблемы: не наладжаны сувязі з Бацькаўшчынай. Таму мой калега імкнецца скарыстаць сваё знаходжанне ў Беларусі для пошуку карэспандэнтаў, цікавых матэрыялаў. Поспехаў яму!

З доктарам Янкам Запруднікам, гісторыкам і журналістам, я таксама ўпершыню сустрэлася тут, на кангрэсе. Ён рэдагуе газету "Беларус", што выходзіць у Амерыцы, працуе на радыёстанцыі "Свабода". Яго дачка, Вера, між іншым, была ў Беларусі летась разам з танцавальным калектывам "Васілёк".

Чаго чакае ад гэтага кангрэса, ад гэтай паездкі доктар Запруднік?

— Асабіста я хацеў бы сустрэцца найперш з гісторыкамі — Ткачовым, Грыцкевічам, Ермаловічам, таму што я цяпер працую над манаграфіяй "Гісторыя Беларусі", якая мае выйсці ў серыі манаграфіяў Калюмбійскага універсітэту. Палавіна кніжкі будзе прысвечана гістарычнаму нарысу, а палавіна — праблемам перабудовы, аналізу апошніх пяцёх ці шасцёх год, там будзе эканоміка, палітыка, культура. Дык, натуральна, зацікаўленні маю перш-наперш прафесійныя, як гісторык. Ну а наогул цікавыя сустрэчы з усімі. Я ж у Менску не быў ніколі. Упершыню ў сталіцы Беларусі. А ў Міры, на сваёй радзіме, не быў 48 гадоў! Абавязкова пабываю. Кожны чалавек для мяне тут — гэта адкрыццё, такое прыемнае адкрыццё.

З доктарам Янкам Запруднікам я мела даволі працяглую гутарку. У прыватнасці, мы закранулі і такую тэму, як наладжванне эканамічных кантактаў з Амерыкай праз беларускіх эмігрантаў, якія ў гэтым сэнсе ўсяляк будуць спрыяць поспеху спраў.

— Бачыце, эміграцыя варочаецца назад, да Бацькаўшчыны. Бо змяніліся ўмовы, нас перасталі лічыць ворагамі, якімі мы ніколі і не былі. Цэлае жыццё пражылі на Захадзе, вярнуліся сюды спецыялістамі, з кантактамі, з магчымасцямі дапамагчы сваім землякам наладзіць сувязі з Захадам.

Як гэта ні дзіўна, але да самага апошняга часу мы не мелі нармальных, цывілізаваных адносін са сваёй эміграцыяй, нават з братамі-беларусамі на Беласточчыне, у суседніх рэспубліках. У той час, як тыя ж самыя італьянцы, французы выдавалі для сваіх эмігрантаў падручнікі, слоўнікі. А мы і дасюль усё толькі збіраемся падрыхтаваць буквар для дзяцей беларускіх эмігрантаў у Амерыцы.

Дзякуй Богу, што пачаліся перамены. Яны самі прыехалі на заклік Бацькаўшчыны. За "круглы стол" "Беларуская дыяспара" паселі разам Вітаўт і Зора Кіпелі, Янка Запруднік з ЗША, Джым Дзінглі з Англіі, Аляксандр Баршчэўскі, вядомыя



даследчыкі, якія, працуючы далёка ад Беларусі, ніколі не пераставалі быць беларусамі і служылі беларускай справе, прадстаўнікі беларускіх культурных таварыстваў нашай краіны.

З вялікім і змястоўным дакладам (мы надрукуем яго пазней) пра беларускую эміграцыю ў Амерыцы выступіў Вітаўт Кіпель. Усё сваё жыццё ён прысвяціў Беларусі, вывучаючы і сістэматызуючы шматлікія матэрыялы па гісторыі, навуцы і культуры. Акрамя гэтага нямала зрабіў для існавання і дзейнасці беларускіх арганізацый у Амерыцы, якія здолелі пабудаваць на чужыне сваё жыццё, беларускае: маюць свае цэрквы, выхоўваюць дзяцей у беларускіх школах, арганізавалі сваю навуковую базу — Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Йорку. Увогуле, чалавек з вялікім аўтарытэтам як сярод сваіх беларусаў, так і сярод уплывовых амерыканцаў. Чалавек слова і справы.

— Майце на ўвазе, суайчыннікі, — звярнуўся Вітаўт Кіпель да ўдзельнікаў "круглага стала", — эміграцыя марыць аб тым, каб быць блізка да краю, каб мець з вамі сувязь. Усё, што адбываецца на Беларусі, вельмі блізка нам. І мы будзем дзеіць, працаваць, і гэта будзе карысна цэлай беларускай нацыі.

Беларусь падала голас... На цэлы свет падала голас. А што ведама пра яе ў свеце? Жылі, адгарадзіўшыся ад усіх. І для многіх тэрыторыя паміж Польшчай і Расіяй — чорная дзірка. Што за Беларусь? Якая Беларусь? Якія беларусы? Што пра нас ведаюць? Хіба тое, што накрыў нас Чарнобыль. У Англіі, як кажа прафесар Дзінглі, мала дасведчаны пра Беларусь нават тыя, хто займаецца замежнымі справамі. Норберт Рандаў, перакладчык, літаратуразнавец з Германіі, які цікавіцца беларускай класікай, шчыра прызнаецца, што ў яго краіне наша літаратура невядомая. Акрамя хіба што Быкава, Адамовіча і Алексіевіч. Таму трэба спяшацца ладзіць масты.

Самы час падаць голас, бо тыя, хто навокал цябе, могуць падумаць, што ты і размаўляць не ўмееш, здзічэў або здзяцінеў. Самы час шырока расчыніць дзверы ў сваім доме, каб скразняком праветрылася памяшканне. І весці работу талакой. Работа ж толькі пачынаецца. Яе будзе многа і цяжкай.

Кангрэс завяршыўся з'яднаннем навуковых сіл беларусістаў свету. А гэта азначае, што вывучэнне нашай Бацькаўшчыны прынясе ў гэтую справу мэтанакіраванасць, дакладнасць у вызначэнні месца і ролі беларускага народа ў сусветнай гісторыі і культуры.

**Таццяна АНТОНАВА.**





**НА ЗДЫМКАХ: ля помніка М. Багдановічу адбылося свята, у якім прынялі ўдзел госці, што прыехалі на кангрэс; Юры ТУРОНАК, польскі вучоны і журналіст; прафесар Аляксандр БАРШЧЭЎСКІ.**

# ЗАЧАРАВАНЫ МУЗЫКАЙ

Сцяпан Копа. Зараз, як і шмат гадоў раней, ён неразлучны са слаўным на Беласточчыне Гарадоцкім хорам.

— Адкуль у цябе столькі замілаванасці да спеву і музыкі? — запытаў я яго.

— Даўней у маёй роднай вёсцы Маліннікі нават глухія любілі спяваць!..— пажартаваў ён. А потым ужо сур'ёзна: — Калісьці ўсе спявалі, і не было важным тое, як яны спявалі, важнае было, што любілі спяваць.

Як Сцяпан Копа стаў музыкантам? Быў у Малінніках чалавек, які збываў гармоню. Сцёпу надта хацелася мець яе. Яна снілася яму начамі. Бацьку прыйшлося папрацаваць узімку пры вырубцы лесу, і гармоню ўсё ж купіў. Калі Сцяпан навучыўся граць, да яго пачалі наведвацца кавалеры з суседніх вёсак і прасіць, каб пайграў ён на пагулянках.

Вучыўся Сцяпан у маліннiцкай школе, а затым у Беларускім ліцэі ў Бельску. Быў тады, так сказаць, "вясельным музыкантам". Але не мог ён доўга ўтрываць у гэтай ролі. Яго запісалі ў вучнёўскі аркестр. І ён навучыўся чытаць ноты, алфавіт музыкі. Іграў на школьных танцах. Не знаходзіліся роўныя яму ў ігры на акардэоне.

У Беластоку паступіў у настаўніцкую студыю. Стаў студэнтам. Яго выкладчыкам быў кампазітар Эдвард Гойлік, слаўны чалавек.

...Зараз штотыдзень, а калі трэба, то і два-тры разы на тыдзень на Сцяпана чакаюць у Доме культуры імя Каліноўскага гарадоцкія спявачкі і спевакі. Гэтак ужо больш дваццаці гадоў. У Беластоку таксама непачаты край беларускай работы на культурнай ніве. С. Копа вядзе тут харавы калектыў гарадскога аддзела Беларускага таварыства. Ужо чацвёрты год ён даязджае таксама ў Рыбалы, дзе існуе мужчынскі хор. Жыццё Сцяпана Копы патрэбнае сотням закаханых у беларускую песню ды музыку ў Беластоцкім краі. Ён дарэшты пранікнуты музыкай і місіяй песенна-музычнай культуры сярод тутэйшых беларусаў.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ.

Беласток.

# НАТАШУ ЧАКАЕ ОСЛА

Прыемная вестка прыляцела з Нарвегіі ў салігорскую дзіцячую мастацкую школу. Яе выхаванка Наташа Катовіч стала пераможцай міжнароднага конкурсу дзіцячага малюнка, які праводзіўся пад дэвізам "Катастрофа — вачамі дзяцей". У малюнку, які Наташа назвала "Шматпакутная Беларусь", яна праз вобразы жанчыны і знявечанай прыроды імкнецца перадаць боль і трывогу, што ўсяліла ў сэрцы людзей чарнобыльская трагедыя. Хутка Наташа адправіцца ў Осла, дзе сустрэнецца з аднагодкамі, удзельнікамі конкурсу з іншых краін свету.

## ПРА КНІГУ ПЯТРА БІТЭЛЯ "ДЗВЕ ВАЙНЫ"

# ПАМЯЦЬ У СЭРЦЫ ЗАХАВАЛА

ІМЯ Пятра Бітэля, абаяльнага чалавека, педагога, паэта, перакладчыка польскай і нямецкай класічнай літаратуры, стала шырокавядомым беларускай грамадскасці з сярэдзіны 60-х гадоў. З таго часу мне даволі часта даводзілася знаёміцца з тым, што выходзіла з-пад пяра руплівага і таленавітага творцы. Перш за ўсё гэта былі пераклады паэзіі Адама Міцкевіча, якая падтрымлівала Пятра Іванавіча ў суровыя часіны ягонага жыцця, бо не давала ўпасці і зламацца ў нягодах, дапамагла выстаяць перад крыўдзіцелямі, застацца чалавекам і патрыётам Айчыны. З той пары з міцкевічаўскай паэзіяй ён ніколі не разлучаўся, часта перакладаў яе і сам пісаў, асабліва на гістарычную тэму. Яго эпічная паэма "Замкі і людзі" (1968) пра падзеі, што адбываліся ў Вялікім княстве Літоўскім у часы Кейстута і Ягайлы (XIV стагоддзе), набыла папулярнасць і стала хрэстаматыйным творам. З цікавасцю была сустрэта паэма "Сказанне пра Апанаса Берасцейскага" (1984), а нядаўна ўбачыла свет яго кніга пад назвай "Дзве вайны" (1990), у якую ўвайшлі вершаваныя аповесці, прысвечаныя простаму люду Заходняй Беларусі, родным мясцінам аўтара.

У паэме "Дзве вайны" паэт імкнуўся асэнсаваць вясковыя і местачковыя будні людзей, іх адвечны клопат пра дастатак у хаце, здольнасць прыйсці да згоды ў час супярэчлівага жыцця, калі адчувалася набліжэнне другой сусветнай вайны. На душы ў людзей было надта трывожна. Аднак кожны па сялянскай звычцы разважаў, што, можа, яна пройдзе бокам, абміне.

**Мо збожжа ў полі не сталочыць,**
**Не спаліць хаты перуном,**
**Мо змые пыл, зямлю прамочыць**
**І ўсё абыдзецца дабром.**

Але не абышлося. І верасня 1939 года гітлераўцы пачалі " сваё нашэсце" на Польшчу, славянскую краіну. Разам з палякамі яе самаахвярна баранілі ад нямецкіх фашыстаў і беларусы.

Больш месяца працягвалася зацятая абарончая бітва. Аўтар рэалістычна паказвае, як фашысцкі кат-граміла цясніў самаахвярных абаронцаў сваёй краіны, нібы той вецер-віхор, зганяючы асенняе лісце, змятаючы і крышачы іх сваімі самалётамі, танкамі і гарматамі ад самай "Балтыкі аж па Карпаты". Парою ім, бедным, не было дзе і схавацца. З баямі яны адступалі з-пад Варшавы, былі ўжо "дзесьці каля Брэста". І ішлі далей...

**Ішлі, хоць добра разумелі,**
**Што вельмі дрэнныя іх справы,**
**Што за фашыстам перамога,**
**Што далей прэцца ён няспынна**
**І ўжо заняў абшару многа.**

Трагедыю польскай дзяржавы блізка да сэрца ўспрымала і беларускае насельніцтва. Са спачуваннем беларускі селянін паведамляе навіны польскім жаўнерам, якія спыніліся ў бліжэйшым лесе на паляне:

**"Не больш гадзіны**
**Мінула, як я рускіх бачыў, —**
**Казаў стары. — Ідуць з усходу,**
**Супраць фашыста пруць,**
**няйначай..."**

Відавочна, што селянін хацеў абнадзеіць польскіх патрыётаў на лепшае. Але ў іх закрадвалася сумненне...

**Усе спрачаліся, гадалі:**
**Што гэта значыць? І што будзе?**
**Як ім сябе паводзіць далей?**

Знайшліся такія, што ніяк не маглі паверыць у добры, братэрскі намер рускіх, а таму аказалі ім супраціўленне.

**І праз гадзіну мо, не далей,**
**Былі палякі ўжо ў палоне.**
**Ды не ў таго, з кім ваявалі,**
**А ў рускіх...**

Спачувальна піша Пятро Бітэль пра лёс гэтых жаўнераў, сярод якіх быў галоўны герой аповесці Кастусь Асошнік і ён сам, яго многія равеснікі. З глыбокім веданнем тагачасных рэалій паэт паказвае станаўленне новага жыцця ў роднай старонцы.

**Тут край нанова ўскалыхнуўся —**
**Свае стаў бачыць інтарэсы**
**"Тутэйшы" ў схватках**
**міжнародных**
**І сустракаў, як блізкіх, родных,**
**Чырвонай Арміі "жаўнераў",**
**Бо цвёрда з першых дзён**
**паверыў,**
**Што дачакаўся лепшай долі.**

Здавалася, жыццё ўваходзіла ў звычайную каляіну. З вайны вярталіся некаторыя яе ўдзельнікі, маладыя хлопцы сваталіся да каханых дзяўчат, жаніліся, уладкоўваліся на працу; адкрываліся школы...

І раптам нечакана пачалі кудысьці знікаць адзін за другім настаўнікі, адбываліся арышты невядома за што. Усё гэта моцна здзіўляла сумленных людзей. У іх узнікала пытанне:

**"Ну хто ж яны, уладары?**
**Калі па Сталіна загаду**
**Яны наводзяць гэтак лад,**
**Калі ён даў ім гэту ўладу,**
**Тады не бацька ён, а кат!**
**Калі ж улад тутэйшых мэта**
**Вось так наводзіць лад і мір,**
**Тады які ж ён правадыр?!"**

У знак пратэсту за арышты сваіх настаўнікаў вучні школы парвалі партрэт правадыра і за гэта трапілі за краты, а затым бясследна зніклі. Дарэмна хадзілі і малілі бацькі ў ліхадзеяў, каб адпусцілі іх дзяцей. Сялян, якія спрадвеку прывыклі працаваць на сваіх загонах, непакоілі звесткі аб запланаваным стварэнні калгасаў. А тым часам набліжалася новая страшная навала — вайна з фашысцкай Германіяй, з верхаводамі якой былі падпісаны пакт аб ненападзе, пратаколы аб сферах уплыву і дагавор аб дружбе і граніцы. І вось цяпер абараняць гэту граніцу ад былых "прыяцеляў" былі пакліканы і мужчыны былой Заходняй Беларусі. Ніхто тут не чакаў, што на дзесяты дзень вайны гітлераўцы пачнуць наводзіць свой "парадак" і будаваць "новае жыццё".

У творы пераканаўча паказана, як ішло змаганне супраць захопнікаў, усялялася вера ў вызваленне, надзея на лепшае жыццё.

Гімнам роднай старонцы, сваім настаўнікам і калегам па семінарыі гучыць вершаваная аповесць Пятра Бітэля "Баруны". Гэта старадаўняе беларускае мястэчка, якое, паводле мясцовага падання, сваю паэтычную назву атрымала ад вячыстага бору. Папулярнасць яно набыло ў канцы XVII стагоддзя, паколькі тут аб'явіўся абраз Маці Боскай Марыі. Каб пакланіцца святой іконе, сюды пачало прыбываць шмат людзей. Жыхары навакольных вёсак спярша пабудавалі тут капліцу, а затым мясцовыя майстры ўзвялі прыгожы кляштар з касцёлам і школай свецкага накірунку.

У гэтай школе — Барунскай настаўніцкай семінарыі — у міжваенныя гады прайшоў курс вучобы і сам паэт. Таму ягоную аповесць можна лічыць біяграфічнай, заснаванай на ўласных успамінах. З цёплай пяшчотай ён узнаўляе той далёкі час, калі даводзілася праходзіць камісіі па стану здароўя і на музычны слых, здаваць уступны экзамен, а затым жыццё ў інтэрнаце і вучобу, сваіх настаўнікаў, экскурсіі ў Вільню, Крэва, Гальшаны, на магілы паўстанцаў 1863 года.

З удзячнасцю згадвае аўтар сваіх выкладчыкаў нямецкай, польскай і беларускай моваў, а таксама іншых дысцыплін, якія дапамаглі стаць добрым настаўнікам для вясковых школ:

**З Барунскай школы педагог**
**Умеў рабіць адзін за трох.**

Пазней розны лёс напаткаў іх.

**Яшчэ не ўспеўшы памужнець,**
**Пайшлі даваць адпор фашысту.**

Гэтыя словы датычаць удзельнікаў польскай абарончай вайны 1939 года. Некаторыя з іх загінулі, другія трапілі ў палон, трэція зноў трапілі на франты другой сусветнай вайны. Яе "крывавы калаўрот" параскідаў многіх па свеце, з сумам апавядае паэт пра былых настаўнікаў і семінарыстаў. Паколькі кожны з іх прайшоў жыццёвы шлях "сумленна, чэсна, працавіта", аўтар вершаванай аповесці "Баруны" палічыў сваім абавязкам расказаць пра ўсё, што памяць у сэрцы захавала.

**Леў МІРАЧЫЦКІ.**

# ...І ПАЎТАРЫЦЦА Ў СЫНЕ



Слухаючы канцэрт Лявончыкаў, я імкнуўся ўявіць сябе на месцы Алеся -старэйшага — Аляксандра Дзмітрыевіча Лявончыка: як і ён у гэтыя хвіліны, я, напэўна, быў бы шчаслівым бацькам. Справа ад яго — старэйшы сын, таксама Алесь, піяніст, які цяпер разам з бацькам выступае на ўсіх канцэртах, злева — малодшы Міхась, яшчэ адзін цымбаліст у сям'і Лявончыкаў, я б сказаў, аздоба творчага вечара.

З Алесем Лявончыкам мы аб'ехалі, і не адзін раз, Канаду і Злучаныя Штаты Амерыкі. І таму з пэўнасцю магу сцвярджаць, што беларусы замежныя ведаюць яго імя можа нават лепш, чым нашы — тутэйшыя. Тым больш, што там ён ездзіў па такіх буйных цэнтрах, як Манрэаль, Таронта, Ванкувер, Сан-Францыска, Нью-Йорк, а тут яго творчыя сцежкі блукаюць па сельскіх школах, невялікіх мястэчках, раённых цэнтрах. І зрэдку — выступленні на сталічнай сцэне.

Можна сказаць, што, дзякуючы Алесю, я глыбей адчуў і зразумеў цымбалы. Уявіце сабе: амаль у кожным горадзе і амаль штовечар слухаць амаль адзін і той жа канцэрт, адну і тую ж музыку — знудзіцца можна! Але ж не, з кожным выступленнем Алеся Лявончыка для мяне ўсё выразней адкрывалася ісціна: якую прыгажосць тояць у сабе нашы цымбалы, якія эстэтычныя магчымасці! І як мала цэніцца выступленне цымбаліста ў нас. Калі на канцэрт цымбальнага аркестра імя Жыновіча ў Мінскай філармоніі не набіраецца і паловы залы, што тады казаць...

Я цешыўся за Алеся, калі ў клубах нашых суайчыннікаў, у студэнцкіх залах, у іншых аўдыторыях замежныя гледачы (а там былі не толькі беларусы) бурна і натуральна выказвалі сваё захапленне яго ігрой. Памятаю, на адным з апошніх яго канцэртаў у Таронта ў кастрычніку мінулага года прысутнічала міністр грамадзянства правінцыі Антарыё Элейн Земба. Яна не мела намеру заставацца на канцэрце — чалавек заняты, міністр прыбыла на вечар, толькі каб перадаць прывітанне ФРК з нагоды яе 60-годдзя. Але ўражаная мелодыяй цымбал і віртуознасцю музыканта, Элейн Земба не пакінула залу да апошняга нумара канцэртнай праграмы.

Што мяне вабіць у спосабе творчага жыцця Алеся Лявончыка, дык гэта нейкая спартанская патрабавальнасць да сябе. Жывучы побач з ім у гатэлях, я назіраў, як ён ставіцца да сваёй Музы: рэпетыцыі кожную вольную хвіліну, каб заўсёды быць у форме. Здаецца, гэтыя любімыя яго "цымбалкі", якія важаць не адзін кілаграм, ён гатоў цягаць з сабой усюды. А калі іх няма, то ў кішэні заўсёды палачкі, якімі Алесь на каленях выстуквае рытм.

Каб не такая патрабавальнасць і да сыноў, невядома яшчэ, што б з іх выйшла. Калі я неяк сказаў Алесю пра іх талент, ён так будзённа, без эмоцый, заўважыў: "Ведаеш, усе дзеці любяць пагуляць..." І ў тым, што цяпер у яго сынах паўтараецца лепшае бацькава, відаць, не ў малой ступені заслуга Алеся — педагога, добрага і цярплівага выхавацеля сваіх дзяцей.

Згаданы творчы вечар меў і сваю нагоду — нядаўна Алесю Лявончыку, лаўрэату Рэспубліканскага конкурсу, споўнілася 50 год. Сціплы, але глыбока нацыянальны па духу, Алесь адзначаў яго сярод тых, хто разумее і шануе нацыянальнае.

Што датычыцца маіх уражанняў, то (няхай мне выбачыць юбіляр) мяне проста захапіла, зачаравала ігра Міхася Лявончыка, вучня шостага класа музычнага ліцэя. Нягледзячы на свой узрост, Лявончык-малодшы таксама ўжо лаўрэат Рэспубліканскага конкурсу цымбалістаў, вядома, школьнага ўзроўню, і ў яго, мне здаецца, вялікая будучыня.

Мабыць, і нашы суайчыннікі дзе-небудзь у Ванкуверы, Буэнас-Айрэсе ці Лос-Анджэлесе неўзабаве пачуюць са сцэны або з экрана тэлевізара: "Выступаюць Лявончыкі!.."

Ва ўсякім разе, я ім гэтага шчыра зычу.

**Вацлаў МАЦКЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ:** выступаюць Алесь ЛЯВОНЧЫК з сынамі Алесем і Міхасём.

# У ДОБРЫ ДЗЕНЬ, «ЛЯТАВЕЦ»

У Полацку прайшоў Першы Усесаюзны фестываль аўтарскага кіно "Лятавец". Амаль тыдзень палачане знаёміліся з дзесяткамі фільмаў, адзначаных адухоўленасцю, асаблівым бачаннем свету і арыгінальнасцю творчага мыслення. Прыцягнуць грамадскую думку да малавядомых твораў кінамастацтва апошніх гадоў — галоўная задача новага фестывалю. Упершыню ў практыцы падобных кінааглядаў у конкурсную праграму ўключаны работы як прафесійных, так і непрафесійных кінематаграфістаў. Лепшыя з іх будуць адзначаны "Гран-пры" і памятнымі медалямі, выпрацаванымі вядомым беларускім скульптарам Мікалаем Байрачным. Сярод прэтэндэнтаў на ўзнагароды — "На чыгунцы" В. Дзяругіна, "Выпадак з практыкі" Ю. Гарулёва і шэраг іншых фільмаў беларускіх аўтараў.

"Лятавец" у перакладзе з старажытнаславянскага абазначае паветраны змей. Аднак арыгінальная назва фестывалю адлюстравала не толькі спрадвечнае парыванне творчасці. Полацк — радзіма аднаго з заснавальнікаў беларускага кіно Юрыя Тарыча, першы савецкі гістарычны фільм якога "Крылы халопа" па праву адносіцца да вяршынь аўтарскага кінематографа.

Арганізатары фестывалю — Таварыства сяброў кіно СССР, Саюз кінематаграфістаў БССР і Полацкі гарвыканком спадзяюцца, што "Лятавец" стане яшчэ адной вяхой на шляху адраджэння багатых традыцый старажытнага беларускага горада і вяртання яму статуса сапраўды культурнага цэнтра.

**І. АЎДЗЕЕЎ.**

# ЛЯ СІНЯЙ БУХТЫ...





У беларускага паэта з Беласточчыны Алеся Барскага ёсць верш "Магіла Максіма Багдановіча", а ў ім такія радкі:

**Твае косці ў зямлі чужой,**
**У зямлі Тваіму сэрцу**
**не любай,**
**Хоць не мала на свеце вужой,**
**Але молімся мы да галубак.**

**Свет прыгожы у колерах знік,**
**Нас нянавісць да лёту**
**не ўзніме,**
**І хаця на грудзях чаравік,**
**У душы нашай вечны жнівень.**

**...........................................**

**І на нашай прыгожай зямлі,**
**Дзе прасторна і вёснам, і зімам,**
**Як жа многа мясцоў для магіл,**
**Толькі месца няма**
**для Максіма.**



Успамінаю, як гадоў 20 назад і я была на гэтай магіле, як, збіраючыся шукаць яе, нават дакладна не ведала, на якіх яна могілках. Здаецца, мінуўшы вуліцу, дзе стаіць Дом-музей Чэхава, выйшла на край горада, спусцілася з горкі і трапіла на ялцінскія могілкі. Даволі ўпэўнена, быццам сапраўды ведала, куды ісці, пакрочыла па алейцы, натрапіла на прыгожы помнік пісьменніку М. Бірукову, спынілася каля яго, а потым позірк упаў на суцільную жалезную агароджу, за якой быў таксама суцільны шэры помнічак. Літары на ім ледзь віднеліся зусім невыразна, сцёртыя часам, змытыя дажджамі, выпаленыя сонцам. Прачытала: Максім Багдановіч. Была глыбокая восень, і я паклала да помніка ліловыя рамонкі "бабінага лета". Тады падалося, і лічу так да сённяшняга дня, што да месца вечнага спачыну Максіма Багдановіча мяне вяла нейкая вышэйшая сіла, бо маё жаданне гэтай сустрэчы было моцным і шчырым. Думалася: рэдка прыходзяць да паэта наведвальнікі, і яму будзе прыемна, што нехта з землякоў успомніў, завітаў у госці і прынёс паклон з Бацькаўшчыны, дзе жывая памяць пра вялікага Паэта і вернага Сына.

Максім Багдановіч памёр у Ялце 74 гады назад. У пачатку 1917 года ён меўся сустрэцца ў Крыме з бацькам, дзе хацеў падлячыцца, пакутуючы ад сухотаў. Але адбылася лютаўская рэвалюцыя. Адам Ягоравіч не змог у вызначаны тэрмін выехаць з Масквы, Максім пакінуў Мінск без цяжкасцей, але цягнік спыніўся каля Гомеля, і пасажыры некалькі дзён цярпелі голад і холад. У Ялту М. Багдановіч прыехаў зусім хворы. З сакавіка жыў на былой Мікалаеўскай вуліцы ў доме № 8, на якім потым доўгі час была мемарыяльная дошка. У 70-я гады дом знеслі, а на яго месцы пабудавалі санаторый "Ялта", і на ім з'явілася новая мемарыяльная дошка з адпаведным тэкстам. Яшчэ пра Максіма Багдановіча ў Крыме нагадвае яго невялікі бюст, што стаіць у Місхоры.

Сёлета ўпершыню на гэтай зямлі прайшлі Дні беларускай культуры, прысвечаныя 100-гадоваму юбілею нашага вялікага паэта. Можа, упершыню за доўгія гады гучала ў гэтым сонечным горадзе на беразе Чорнага мора беларуская гаворка. Адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны памяці славутага паэта. Працавала выстаўка ў музеі "Культура Ялты", прадаваліся беларускія кнігі. Нашы артысты з ансамблю "Свята" і "Сябры" выступалі на лепшых гарадскіх пляцоўках.

Вялікая беларуская дэлегацыя, якая прыехала на Дні беларускай культуры, была прынята гаспадарамі цёпла і сардэчна. Беларусы адчувалі, што зямля, якая прыняла Максіма, хоць і не родная, але не такая ўжо і чужая для іх.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: сустрэча беларускай дэлегацыі ў сімферопальскім аэрапорце; помнік на магіле Максіма Багдановіча ў Ялце; вечарына ўшанавання памяці паэта ў ялцінскім тэатры імя Чэхава.**

**Фота А. КЛЕШЧУКА.**

# БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

## СУП-ПЮРЭ БУЛЬБЯНЫ З МАКАМ

**Абабраную бульбу зварыць у падсоленай вадзе, працерці і развесці бульбяным адварам.**

**Асобна падрыхтаваць макавае малачко: мак прамыць, абварыць кіпнем, працадзіць праз густое сіта ці марлю. Падрыхтаваны мак расцерці ў ступцы да з'яўлення белага соку, дабавіць крыху кіпню і добра размяшаць. Атрыманым макавым малачком запраўвіць суп-пюрэ, пасаліць і вытрымаць у печы ці духоўцы да ўтварэння румянай пенкі.**

**1,5 літра вады, 5-6 бульбін, 3 сталовыя лыжкі маку, соль.**

## БУЛЬБА АДВАРНАЯ

**Бульбу абабраць, прамыць, заліць гарачай вадой і паставіць варыць. Пасля закіпання дабавіць соль і працягваць варыць яшчэ 20 мінут, пакуль бульба не стане мяккай. Потым злiць ваду, каструлю пакінуць на слабым агні на 2 мінуты, каб бульба падсохла, затым перакласці яе на блюда, паліць маслам. Асобна можна падаць селядзец з цыбуляй і алеем, зялёную цыбулю са сметанай, рэдзьку ці радыску ў смятане, квашаную капусту.**

**8 штук бульбы, 2 сталовыя лыжкі масла, соль.**

## РЫБНІК

**Філе рыбы, размочаны ў малацэ хлеб, цыбулю двойчы прапусціць праз мясарубку. Дабавіць соль, перац, масла і алей, яйка і добра перамяшаць да ўтварэння аднароднай пышнай масы. Пакласці яе на цэлафан ці сурвэтку з марлі, надаўшы форму рыбы. Перакласці ў каструлю авальнай формы, заліць рыбным бульёнам ці вадой і варыць на слабым агні да гатоўнасці.**

**Рыбнік нарэзаць і падаць на стол з адварной бульбай.**

**300 грамаў філе рыбы, 1 яйка, 50 грамаў чэрствага белага хлеба, 0,25 шклянкі малака, 1 цыбуліна, па 1 сталовай лыжцы масла і алею, перац, лаўровы ліст, соль.**

## СПОРТ

Многія газеты нашай (ды і не толькі нашай!) краіны абышло паведамленне, што мінчанін Аляксей Місюк на гульнявым аўтамаце вытворчасці галандскай фірмы "БЕКО" выйграў 999 999 рублёў. Але сенсацыі не адбылося. Не ўдаючыся ў падрабязнасці, скажам, што шасцiразовы чэмпіён свету па міжнародных шашках Харм Вірсма, прадстаўнік той жа фірмы, пераканаўча даказаў беспадстаўнасць прэтэнзій "шчаслівчыка".

Хаця прыезд галандца ў беларускую сталіцу быў выкліканы не гэтымі абставінамі. Шматразовы чэмпіён свету мінчанін Анатоль Гантварг запрасіў Вірсму на таварыскі матч, які праходзіў у рэспубліканскім Палацы шахмат і шашак. Лік сустрэчы 4:2 на карысць госця.

З афіцыйных спаборніцтваў адзначым чэмпіянат Еўропы па цяжкай атлетыцы, што завяршыўся ў Польшчы. Першае агульнакамандное месца заняла зборная СССР. У самай цяжкай вагавой катэгорыі перамог мінчанін Леанід Тараненка.

Парадавалі і футбалісты. Наша каманда правяла адборачны матч першынства Еўропы з камандай Кіпра. Вынік гульні 4:0 на карысць савецкіх спартсменаў. Адзін мяч у вароты сапернікаў забіў Сяргей Алейнікаў. Гол Сяргея прызнаны найбольш прыгожым у гэтым матчы. Цяпер зборная СССР узначаліла турнірную табліцу ў сваёй групе.

Набірае хуткасць лёгкаатлетычны спартыўны сезон. Міжнародныя спаборніцтвы з удзелам прадстаўнікоў Беларусі праходзяць у розных пунктах планеты. Так, прыемная навіна прыйшла з Аўстраліі: Ірына Пятрова з Магілёва выйграла тут традыцыйны марафон, а яе зямляк Віктар Мазгавой заняў тут першае месца сярод мужчын.

Крыху горш выступілі беларускія спартсмены на амерыканскім кантыненце. Брэстаўчанка Вольга Кардапольцава была чацвёртай у хадзьбе на 10 кіламетраў, а мінчанка Алена Цухло ў марафоне фінішавала пятай.

Затое на міжнародных спаборніцтвах на "Кубак Рыгі" Наталля Шыкаленка выйграла спаборніцтвы ў кіданні кап'я. Першае месца заняў і Міхаіл Рабухін у бар'ерным бегу на 110 метраў.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-5, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Заказ 887.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12